. . . Панам быў дома і слаўны за домам
Мой патаптаны няволяй народ;
Змог ён нятолькі знаць штукі з заломам,
Роднаму слову ўмеў кніжны даць ход.

З вольнай дружынай князь на пасадзе
Вольнаму люду законы пісаў;
Слухалі князя, а князь, што ня ўладзіў —
Слухаў, што ВЕЧА яму звон казаў.

**Янка Купала**

# За беларускую моладзеж!

Моладзеж нашая ў стадыі заміраньня. Калі так застанецца, дык мінець яшчэ год дзесяць, і ад нашае эміграцыі застанецца адно ўспамін. З часам народ наш пракліне нас за такую нядбайнасьць, за тое, што мы дапусьцілі да гэтага. Слабыя скажуць: „Нічога мы ня зробім!“ Але моцныя духам гукнуць: „Не, мы ўратуем нашую моладзеж ад загубы!“

Мы ведаем, што нашыя людзі — людзі моцнага духа, на'т тыя, што самы празь сябе думаюць начай.

Што трэба ўчыніць дзеля ўратаваньня нашае моладзежы ад нацыянальнае загубы? Трэба стварыць культурную атмосвэру беларускую, жыцьцё ў культуры беларускай, ды творачы заразом уцягаваць моладзеж у гэта жыцьцё. Патрэба, каб нашая моладзеж пазнала нашу нацыянальную апрычонасьць, пераканалася ў гэтым. Патрэба, каб пазнала вартоўнасьць народу свайго ў яго гісторычным жыцьцю, надзвычайныя здольнасьці ягоныя. Зь ніводнага народу ў гісторыі ня вышла толькі вялікіх людзёў, колькі з народу нашага. Шмат страціў бы сьвет ад загубы народу беларускага. З другога боку, каб моладзеж наша даведалася, ўсьведаміла сабе, што вялікае гора народу нашага на 99 прац. спрычынена яго палітычным а далей нацыянальным і душэўным паняволеньням. Прыраўнуйце людзёў народаў палітычна незалежных або хоцьбы жывучых сваім нацыянальным жыцьцём (Жыды), да людзёў народаў нацыянальна паняволеных і пабачыце, што першыя два наагул шчасьлівыя, а апошнія гаротныя. Гэта затым, што людзіна — грамадзкі стваранэц, а прыроднаю грамадою ёй ёсьць народ ейны.

Якія ж спосабы вядуць да выпрацоўваньня культурна-нацыянальнага жыцьця беларускага на чужыне? Яны агульна ведамыя. Патрэба перш-наперш сыстэматычных зборак з чытанямі на тэмы зь беларусаведы. Уважаю, што на такіх зборках, просьле чытані й дыскусіі на тэму чытані, мелі-б быць і скокі ў вабмежаным часе дзеля тых, што зычыць паскакаць. Не пад аркестру, але пад дармавую музыку самых із моладзежы, што граюць або вучацца граць. Гэтак была-б злучана навука з пагулянкаю, як ёсьць і ў школах. Некаторыя кажуць, што былі ігрышчы і аказаліся бескарысьнымі, дык нашто яны цяпер. Але ігрышчаў з чытанямі ані ня было, не прабавалі й чытаняў зь ігрышчамі.

Якая-ж роўня мае быць чытаняў? Некаторыя хочуць абняць

справаю усьведамленьня толькі студэнтаў і абсольвэнтаў высокіх школ. Трэба іх абняць і нават, калі хто хоча, галоўна; але трэба мець наўвеце і ўсю інтэлігенцкую і нават паўінтэлігэнцкую моладзеж. Гэта ня можа пашкодзіць усьведамляньню студэнтаў, наадварот, чым большая колькасьць моладзежы будзе ўцягнена, тым большая створыцца атмосфэра культурна-нацыянальнага жыцьця і тым большы будзе дасьпех. Чытань мае мець наўвеце ўсю інтэліґенцыю, бо нават абсолвэнты тэхнікі, на'т дахтары мэдыцыны й пад. ня болей прыгатаваўшыся да зразуменьня гуманыстычных працаў, а значыцца, і працаў зь беларусаведы, чымся звычайны інтэліґент. Хто ў легцы мае маладых ізь сярэдняй і на'т няпоўнай сярэдняй асьветаю, таму трэба прыпомніць, што Колас, Гарэцкі, Лёсік, Буйла і шмат іншыя ня былі студэнтамі. Не бяда, калі адныя знойдуць у чытані штось сабе непатрэбнае, а другія ізноў што-лень сабе незразумелае, калі іншыя часьці ў ёй будуць усім патрэбныя й зразумелыя. На'т у падручніках, прытарнаваных да аднае школьнае клясы, бывае часьць, каторую прапушчаюць, і не стаець чагось, што вучыцель дадаець.

Чытань наагул мае быць апрацавана сусім навукова, але й заразам найбольш популярна.

Чытані, напісаныя пабеларуску, маюць быць перакладзены на мову анґельскую, каб іх зразумелі тыя, што, на няшчасьце, забыліся або не навучыліся роднае мовы. А напісаныя паанґельску, мусяць быць перакладзеныя на мову беларускую. Чытаць чытань хоць бы часткава паанґельску, было б шкодна, бо быў бы зацьвярджаны адыход ад роднае мовы. Але можа быць роблена гэтак: чытаць чытань пабеларуску, але заразом раздаць анґ. пераклад яе тым, што ані або слаба разумеюць пабеларуску. Таксама ў часе або ў канцы чытані можна рабіць патрабуючым зьясьненьні паанґельску. Хто бы захацеў сабе задзяржаць анґельскі тэкст, той меў бы за яго заплаціць. Зь менаванага вынікае, 1) што мусіць быць хтось, хто адумысьля займецца даставаю чытаняў, прыцягнуўшы да іх апрацаваньня зь дзесяток навукоўцаў. Калі гэта будзе не адзін чалавек, але грудок з колькіх, дык адзін ізь іх мае стаяць на чале, а іншыя яму памагаць, бо калі кожны з комісі будзе спадзявацца на іншых, работа будзе стаяць.

Другое, трэба мець кажначасных добрых перакладнікаў чытаняў з мовы беларускае на анґельскую і наадварот.

Чытані маюць быць пісаны на машынцы, бо першае, трэба ў часе чытаньня чытані даць па экземпляру яе тым слухачом, што

ня будуць разумець пабеларуску; рдугое, трэба па адным экзэмпляру чытані паслаць да беларускіх асяродкаў у Ню Брансьвіку, Клевэляндзе, Детройце, 2 экз. да Чыкага, адзін да Торонта, хіба два да Ангельшчыны, два або тры да Аўстралі. Гэтым таксама будзе шырыцца адраджэнская ідэёлёґія нашае моладзежы. Асяродкі ахвотна аплацяць із працэнтамі свой экзэмпляр. А хоць малыя водгукі прыдуць зь іншых месцаў, яны будуць прыяць працы ў Ню Ёрку сярод моладзежы. Пасыланьне чытаньняў да іншых асяродкаў эміграцыі нашае яшчэ тым будзе карыснае, што, дзякуючы адзержаваным ізь Ню Ёрку гатовым чытаням, у іх можа паўстаць такая арганізаваная праца дзеля моладзежы. А зусім незалежна такія арганізацыі ў іншых месцах паўстаць ня могуць із нястачы інтэлектуальных сілаў, у кажным асяродку асобна. Можна зацеміць, што бяз помачы навукоўцаў зь іншых месцаў і ў Ню Ёрку немагчыма наладзіць разгляданае працы.

Маюць быць чытані з дыскусямі, а ня дыёлёґі, бо дыёлёг — гэта гутарка памеж двух або колькіх, а тут маецца наўвеце, болей: ды каб праз што дыскутаваць або хоць бы гутарыць, трэба мець матар'ял да гэтага, каторы дасьць чытань.

На зборках мае разглядацца ня толькі тое, чым сяброве зборак цікавяцца, бо людзі цікавяцца адно тым праз што троху ведаюць, або, прынамся чулі, дык ня можна іх пакінуць бязь веданьня того, праз што на'т ня чулі. Пазнаёміўшыся хоць бы крыху, будуць цікавіцца.

Па прачытаньню чытані, трэба кажную выдрукаваць, бо, першае, праслухаўшы чытань, але ня маючы яе выдрукаванай, зьмест яе забудуцца; другое, ніхто ня будзе добра, зглыбока апрацоўваць чытані, калі яна й застанецца толькі чытаняй, калі ня будзе выдрукаваная; а калі так, дык добра будуць прыгатаваны адно такія чытані, каторыя былі апрацаваны дзеля іншых мэтаў. Але такіх ня шмат, і яны борзда высіляцца, а тады застануцца чытані слабыя або й іх ня будзе ставаць. А із слабых чытаняў малая карысьць, і слухачыя ўборзьдзе імі зьбезахоцяцца. Апрача таго, друкаваныя чытані будуць разыходзіцца, будуць душэўна мацаваць эміґрацыю беларускую, прычыняцца да беларускага нацыянальна-культурнага жыцьця, каторае папрыяе ўсякае акцыі адраджэньня нашае моладзежы. Ня толькі беспасярэдняе ўзьдзеяньне, але таксама атмосфэра прыяе пашырэньню і, казаў тый, прышчапленьню ідэёлёґіі.

Хто-ж мае дзеяць, рабіць усё менаванае? Хто возьме яе на свае плечы? Якісь мудрагель сказаў: „Моладзеж!“ Здаецца лёґічна:

справу моладзежы будзе рабіць сама моладзеж. Калі б была некаторая колькасьць нашае нацыянальна-сьведамае (зн. ідэйнае) моладзежы, моладзежы дзейнае ды з даведаньням-дазнаньням у справах свайго народу, то такі груд мог бы гэта рабіць, дый то апіраючыся на тое, што зроблена і робіцца старшымі. У нормальным грамадзтве моладзеж не асымілюецца, але сыстэматычна знаёміцца з усім, што датыкаецца свайго народу і памалу няпрыцяй уцягуецца ў працу старшых, адлі пераймае яе. У нас палажэньне шмат горшае, бо мы дапусьцілі, што нашая моладзь у бальшыні асымілявалася, а не асыміляваная часьць ейная, з выняткам адзінак, пасыўная. Ідэйныя ж і дзейныя адзінкі, на'т абсольвэнты высокіх школ, калі яны не гуманістыя, дык яны не даволі азнаёміўшыся зь беларусаведаю да правядзеньня менаванае дзейнасьці. Затым у нас пакінуць самым маладым працаваць дзеля ўсьведамленьня маладых, значыла б тое самае, што каб учанікі вучылі вучанікоў. Ідэйных і дзейных адзінак з памеж моладзежы нельга ўлегцы мець, наадварот яны надта патрэбныя, але яны галоўна могуць прапаґаваць ідэю асабістымі контахтамі, асабліва з больш-менш роўнымі сабе векам.

Усю ж работу мае пачаць і весьці старшае пакаленьне — уся інтэліґенцыя. Ініцыятары маюць зьвярнуцца із заклікам да кажнага інтэліґента, а зь людзёў неадукаваных да сьведамых і дзейных. Тыя, што адгукнуцца, увыйдуць да арганізацы „За беларускую моладзеж“, каторую закладуць ініцыятары. Сяброве яе мусяць стварыць „Фонд беларускае моладзежы“. Кажны зь іх мае абавязацца даваць што месяца складку ў вышыні самым ім азначаную. Найперш гэта маюць учыніць ініцыятары разгляданае дзейнасьці. Сяброве зьвязу „За беларускую моладзеж!“ маюць браць з памеж сябе старшыню, скарбніка, таго або тых, што прымуць на сябе абавязак абесьпячаць чытанямі зборкі моладзежы, і іншых патрэбных. Гэта была б Рада зьвязу „За беларускую моладзеж“. Рада мае парупіцца праз друк на машынцы чытаняў, праз перакладнікаў і наагул весьці усю справу зьвязу „За беларускую моладзеж!“ Першая, часная. Тады мела б быць абрана ініцыятарамі арганізацыі.

Да ўсяго менаванага трэба яшчэ дадаць, што апрача зборак, адумысьля згуканых дзеля моладзежы, канечне трэба, каб моладзеж ладзіла на іншыя чытані й культурныя імпрэзы-адправы. Бацькі й знаёмыя маюць захочаваць моладзь бываць на іх і самы даваць прыклад.

*Я. Станкевіґ*

* * * *

**Ад Рэдакцыі:** 9 чырвеня 1970 года памёр уладыка Васіль (Уладзімер Тамашчык), архіяпіскап партыйнай БАПЦ. Посьле Другой сьвятовай вайны Ўладзімер Тамашчык быў радным эміграцкай Рады БНР, якая нічога ня маіць супольнага із Радай БНР Беларускіх Сацыялістаў. Нябожчык падтрымліаў праватыканскую фракцыю ў Радзе эміграцкай БНР, людзі якой ёсьць сапраўднымі гаспадарамі гэтай арганізацыі.

Посьле выхаду ў сьвет першага і другога нумараў часапіса „Веча“, Уладыка Васіль напісаў ліст да радактара часапісу, дзе выказаў свае думкі на тэмы, якія былі апублікаваны ў гэтых нумярох. Ніжэй друкуем гэны ліст.

ВЯЛІКДЗЕНЬ, 1970.

ВЫСОКАДАСТОЙНЫ Й ДАРАГІ

Сп. ДОКТАР!

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Сардэчна вітаю Вас і Вашую сямейку з нашым Вялікім, Сьветлым і Радасным Сьвятам над Сьвятамі, трыюмфам Неба й зямлі, нашаю перамогаю й спасеньнем: УВАСКРАСЕНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ — ВЯЛІКАДНЕМ!

Няхай Ангелы й Вам дабравесьцяць: ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Няхай Сам Уваскросшы Гасподзь Бог і Спас наш Ісус Хрыстос абдорыць Вас вялікаю Ласкаю Сваёю: супакоем, задаваленьнем, мудрасьцю, радасьцю незямною, і ўсякім посьпехам у жыцьці і працы.

І няхай Ён узмоцніць надзею Вашую, што блізкі ўжо час, калі з гробу ўстане, уваскрэсьне да новага, вольнага, радаснага й шчасьлівага жыцьця нашая любая пакутніца Маці Беларусь!

ХРЫСТОС УВАСКРОС! РАДУЙЦЕСЯ!

Вельмі дзякую за Вашую зьмястоўную брашуру „ВЕЧА“. Многа тут ёсьць добрых, здаровых думак. Нажаль, аналіз Ваш што да рэсорту „Менск“ проста зьнішчальны, і найгоршае тое, што ён абсалютна адпавядае праўдзе. Шкода толькі, што Вы крыху нязгодна з праўдаю ўспомнілі й пра БАПЦ. Яна фактычна арганізавала куплю гэтага рэсорту й доўгі час добра падтрымоўвала яго, і тады „Менск“ стаяў ня блага. Упадак яго пачаўся тады, калі злыя духі

з Саўт Рывэру ўмяшаліся: зайгралі на нізкіх інстынктах нізкіх людзей. Магчыма яны зусім сьведама павялі гэты рэсорт, гонар наш, да ўпадку й зьнішчэньня. Калі яшчэ БАПЦ мела там сваё слова, то напэўна Вы помніце, што там быў і лягер для дзяцей і школка для іх, і часта ў суботы там не хапала месца для ўсіх гасьцей, таму некаторыя былі прымушаны ехаць да ўкраінцаў на ноч. Так, людна, весела там тады было, усе былі здаволеныя, радаваліся! І гэта, вось, не падабалася тым чорным душам з Саўт Рывэру, і павялі яны падкопную работу. І гэта было на Вашых вачох.

Ці можна яшчэ ўратаваць гэты рэсорт? Можна! Як? Бязумоўна, поўным і добрым ратункам было-б злучэньне нашых Цэркваў: зноў не хапала-б месца там! Пра ніякі дэфіцыт ня было-б мовы. Нажаль, тыя махляры з Саўт Рывэру не праявяць тут ніякае добрае волі, тым болей, што расьцьвет „Менску" не ляжыць ім на сэрцы. Але ёсьць яшчэ іншы спосаб ратунку, а гэта: калі-б знайшліся добрыя людзі ў Саўт Рывэры, якія бы зразумелі, што толькі Царква можа яшчэ ўратаваць „Менск". Я тут ня маю на думцы таго, каб перапісаць „Менск" на БАПЦаркву, што было-б найлепш, аднак, хапіла-б для аздараўленьня й такое рэчы: Дырэкція „Менску" прыняла-б пастанову, што там могуць мець Службы Божыя ўсе нашыя, як Праваслаўныя, так і каталіцкія Цэрквы, абвесьціла-б, што яна аднолькава добра будзе вітаць іхныя Службы Божыя на рэсорце, міла спаткае й забясьпечыць памешканьнямі й ежаю Духавенства. Такая пастанова зрабіла-б добрае ўражэньне сярод усіх нашых добрых людзей вярнула-б назад іхныя сымпатыі да „Менску", і напэўна знайшліся-б новыя ахвярадаўцы. Іншага спосабу для ратунку „Менску" я не бачу: злыя духі „добра" папрацавалі!

Магчыма й Вы прыпамінаеце сабе адзін такі мамэнт: Дырэкцыя рэсорту запрасіла на Службы Божыя туды мяне й а. М. Лапіцкага, быў тады там і Сп. Р. Астроўскі. Адбыліся Службы Божыя, народу было многа, прыйшлі ў сталоўку на абед, і вось. . . а. Лапіцкі пачынае Малітву й блгаславенства!! Многіх гэта рэзанула па сэрцы, а я падумаў: „айцец" багаслаўляе. . . упадак „Менску"! І не памыліўся. Так, гэта галоўна ён з сваім „ідэалёгам"-шваграм разграмілі рэсорт. Убогія духам мерлякі ды юрцевічы тут былі толькі сьляпым знарадзьдзем.

Уваскрошы Гасподзь Бог наш Ісус Хрыстос багаславіць Вас.

З глыбокаю пашанаю да Вас і любоўю ў Хрысьце,

Ваш

† *Архіяпіскап Васілі*

# *Resort Bel-Air Miensk, Facts:*

In my letter to the Goldman Agency (insurance agent for Resort Bel-Air Miensk), I asked why insurances were cancelled for our corporation. They replied that it was for non-payment, not as the president of our corporation, Mr. G. Artishenko said; that he was looking for better and cheaper insurances.

***

Notice the security deposits in the bank that we hold a mortgage at. The bank was holding this money as a deposit:

1966—$2,243.00
1967—$2,856.00
1968—$3,949.83
1969—$0,727.00

As you can see for yourself, in1969 the security deposits in the bank were $727, which means the Knights of Swastica used more then $3000 of the reserve money to cover mortgage taxes. This is how they were able to balance an annual report: by non-payment of the insurance and using money from the reserve.

***

According to annual reports, the value of our shares dropped as follows: 1963, 1964, 1965, 1966, 1968 — $5,372.84 In two years; 1967 and 1969, the value dropped $11,230.81. How did this happen?

***

The auditing committee of 1969 found the percentages of income from alcoholic beverages as follows:

1967—43%
1968—48%
1969—38%

Here again, the Knights of Swastica and friends.

***

Do you know that our corporation operates only 2 months per year? Does everyone know how much money is made within these months? Here are the figures, accoridng to annual reports. Please read the figgures, carefully and thoughtfully:

| | *Grosse* | *Net* | *Expenses* | *Loss* |
|---|---|---|---|---|
| 1963 | $25,943.88 | $........ | $21,196.30 | $........ |
| 1964 | $26,089.34 | $17,091.29 | $18,691.97 | $1,600.68 |
| 1965 | $30,804.42 | $19,754.13 | $21,144.84 | $1,390.71 |
| 1966 | $37,866.78 | $23,131.87 | $24,040.27 | $0,908.40 |
| 1967 | $45,834.13 | $21,297.24 | $26,921.86 | $5,624.62 |
| 1968 | $34,500.72 | $18,968.10 | $20,349.34 | $1,381.24 |
| 1969 | $35,009.79 | $16,014.40 | $20,871.30 | $4,856.90 |

There is no reason why we do not have a financial statement issued along with annual reports. I personally reminded and asked about this many times.

Everyone should realize that if we work together, our income could be doubled. If you own a business, then contemplate this matter: by working 2 months out of each year, can your business survive a whole year?

I appeal once more to the board of directors, auditing committee, and shareholders to create a fact-finding commission (excluding the former executive) as soon as possible to find the sore spots of our organization.

*Dr. Peter Markouski*

---

# Дыструкцыя за працай

*ЗАПРОСІНЫ*

*Ветліва просім Вас прыняць удзел у Надзвычайным сходзе шэраўцаў карпарацыі Бэлэр-Менск, які адбудзецца ў суботу 30 траўня 1970 г. на рэзорце Бэлэр-Менск. Пагатак а 4:00 гадзіне пасьля паўдня.*

*На парадку дня:*
*1. Лёс Рэсорту Бэлэр-Менск*

*Сход вельмі важны і прысутнасьць усіх шэраўцаў абавязкавая. Хто, з незалежных ад сябе прычынаў, ня зможа прыбыць, няхай перадасьць паўнамоцтва другому сябру карпарацыі.*

*Асобы рэпрэзэнтуючыя арганізацыі, мусяць мець поўнамоцтвы падпісаныя двума сябрамі ўправы.*

*Рада Дырэктароў*

Прачытаўшы такія запросіны, я сам сабе падумаў, што такія лісты былі перад гэтым; дырэкцыя патрабуіць грошы, пагэтаму

пасылаіць такія запросіны. Чаму 4-ая гадзіна па абедзе? Посьле сходу няма дзе начаваць, а ехаць дадому будзіць за позна. Паглядзеўшы на канвэрт, ліст высланы із Герман Стрыт. А гэта, што такое? Чаму не сакратар карпарацыі? Хоць-бы адрыс быў ад імя карпарацыі. Я рашыў ня ехаць; каб пазычыць грошы дырэкцыі, непатрэбна ехаць туды. Гэты раз я памыліўся, трэба было паехаць, там было што паслухаць. Шкада!

Посьле сходу стала вядома сапраўдная павестка дня. Для таго, каб групавая царква ў Саўт Рывэры дый Рычмонд Гіл перабралі маёмасьць нашай арганізацыі за 100 даляраў, для іх патрэбна было мець большасьць галасоў нашай арганізацыі.

Як стала вядома далей, наступны дзень посьле сходу ў Менску, г. зн. у нядзелю 31 травеня 1970 года, рыцары свастыкі (кангрэсовы камітэт), у саўт рывэрскай партыйнай царкве склікалі паседжаньне, на якім пастанавілі не мяшаць саўт рывэрскай царквы ў ванючую кашу, якую яны наварылі. Як цяпер бачна, юдзіна праца была прадумана наперад, бо інакш ня было-б 51 голасу за такую пастаневу. Мерляк ня быў на сходзе ў Менску, першы раз за сем гадоў, на сход прыехаў фюрар рыцараў свастыкі Іван Іванавіч. Наканец гэты „беларускі дзеяч“ дачакаўся мамэнту, каб папхнуць нож глыбей у раны нашай арганізацыі. Як, задаволен пане ламач?

Посьле такіх навін, я патэлефанаваў да праўніка. Праўнік вытлумачыў так: калі большасьць дольшчыкаў пагодзіцца аддаць сваю частку для царквы, гэта не заабавязваіць рэшту дольшчыкаў. Гэта значыць, царква павінна перабраць усе даўгі, выплаціць грошы тым, хто не пагодзіцца — прапарцыянальна колькасьці выдадзеных шэраў (outstanding shares). Самае важнае, што пастанова ня ёсьць правамоцнай, таму, што ў запросінах ня была вытлумачана сапраўдная павестка дня. Каб быць пэўным, я меў кансультацыю із другім праўнікам, які даў такі самы адказ, як і першы.

Я раджу ўсім, хто належыць да нашай арганізацыі, парадзьцеся із сваім праўнікам, дый калі дазнаіцеся штось навейшае, калі ласка, напішыце да рэдакцыі.

Што можна прадбачыць у такой гульні:

1. Царка ў Рычмонд Гіл ня будзіць здольнай перабраць даўгі, дый выплаціць тым, што захочуць грошы назад, а такіх будзіць больш як 50 %.
2. Скажым, нейкая партыйная царква пазбудзіцца падаткаў на будынкі, даход рэзорту, напэўна зьменшыцца больш, як на палавіну; большасьць Беларусаў перастануць наведваць рэзорт; ня будзіць шэраў затыкаць дзіркі расходаў, а расходы будуць, падатак не

асноўны расход. Пагэтаму, толькі ўсе цэрквы дый тыя, што не належаць да цэркваў ёсьць ратункам сытуацыі.

3. Чаму-ж тады рашылі перапісаць рэзорт на адну партыйную царку? Адказ. Гэта найлепшы спосаб зьлівідаваць гэтую арганізацыю. Гэта найлепшы спосаб не дапусьціць да дакумэнтаў арганізацыі.
4. Зрабіўшы пажар у нашай арганізацыі, Касяк із саўт-рывэрскім протопрасьвіцерам адмовілісь быць у супалцы із Мерляком із наступных прычын:
   а) Яны пэўныя, што іх экзэкутыва на Герман Стрыт ёсьць вельмі слабая, каб весьці гэтую арганізацыю.
   б) Яны ніколі не жадалі і не жадаюць, каб Беларусы едналіся.
   в) Мерляку, як саюзьніку, яны не давяраюць, а пагэтаму ўскладаюць на яго плечы ўсю няпрыемнасьць, якую яны дапамаглі яму нарабіць.
5. Многія Беларусы, посьле такіх навін, перасталі наведваць наш рэзорт, а гэта далей адбіваецца на фінансавым стане нашай арганізацыі.
6. Калі царква ў Рычмонд Гіл сумеіць правесьці пастанову ад 30 травеня ў жыцьцё, тады справа напэўна будзіць у судзе. Канец будзіць няпрыемны.
7. Ужо прайшло пару месяцаў ад гэтай знамянітай даты, а рэзорт надалей ёсьць агульнабеларускай арганізацыяй.

*Dr. P. Markouski*

# Дарагія Беларусы, наведвайце Рэзорт Бэлэр-Менск, ён ёсьць наш!

# Telephone: 914-856-5011


Радактар: Dr. P. Markouski Editor

Адрыс: 204 S. Highway, 18
East Brunswick, N.J. 08816
USA

**Printed by The Whiteruthenian Press * 452 South Avenue, Syracuse, N.Y., 13204**